„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 28 (1 4 БЕЛАСТОК, 13 ЛІПЕНЯ 1958 г. ГОД III

## Дыскусійны клуб у Варшаве

Цэнную ініцыятыву праявілі сябры з Варшаўскага Аддзела Беларускага грамадска - культурнага таварыства, арганізуючы дыскусійны клуб. У арганізацыю гэтага клуба найбольш намаганняў паклаў сябра Я. Анісэровіч.

Працу клуба запачаткаваў сябра П. Ластаўка сваім дакладам «Кароткі нарыс гісторыі беларускага народа». Гэтай тэме было прысвечана два пасяджэнні. Выклікала яна надзвычай вялікае зацікаўленне сяброў і гарачыя спрэчкі. Удзельнікі спрэчак звярталі ўвагу на неабходнасць шырэйшага навуковага апрацавання матэрыялаў па гісторыі беларускага насельніцтва ў Польшчы. Звярталася таксама ўвагу на патрэбу выкарыстання звязаных з гэтым пытаннем гістарычных матэрыялаў, якія знаходзяцца ў польскіх архівах і бібліятэках.

Наступнае пасяджэнне дыскусійнага клуба было прысвечана праблеме сучаснага мастацтва. З дакладам выступіў мастак Я. Анісэровіч. Спрэчкі пасля даклада паказалі як па рознаму людзі разумеюць і падыходзяць да сучаснага мастацтва.

З найбольшым зацікаўленнем аднясліся аднак прысуткыя да апошняга пасяджэння дыскусійнага клуба, на якім разглядаліся справы беларускага вызваленчага руху ў санацыйнай Польшчы. Абмяркоўвалася дзейнасць КПЗБ, Грамады, Таварыства Беларускай Школы.

Падставай да дыскусіі быў артыкул М. Арэхвы пад загалоўкам «Да пытання аб гісторыі Комуністычнай партыі Заходняй Беларусі», змешчаны у 8 нумары «Комуніста Беларусі» за 1957 год. На пасяджэнне прыйшло шмат зацікаўленых асоб, так з моладзі, як і старэйшага пакалення. Прысутнічалі таксама ўдзельнікі беларускага вызваленчага руху ў даваеннай Польшчы, якія падзяліліся з маладым пакаленнем надзвычай цікавымі ўспамінамі аб сваім удзеле ў барацьбе з капіталістычнымі ўладамі за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Зразумела, што адно пасяджэнне не магло вычэрпаць гэтага надзвычай важнага ў нашай гісторыі і цікавага пытання. Яму будуць прысвечаны наступныя пасяджэнні, на якіх будзе больш падрабязна разглядацца дзейнасць палітычных беларускіх арганізацый, якія дзейнічалі ў міжваенны перыяд у Польшчы.

Хацелася-б толькі пажадаць арганізатарам дыскусійнага клуба, каб больш сур'ёзна падрыхтоўваліся да кожнага пасяджэння і не пускалі дыскусіі на самацёк. Толькі добра падрыхтаванае пасяджэнне можа запэўніць плённыя вынікі, і прыцягнуць да ўдзелу ў дыскусійным клубе яшчэ большую колькасць людзей.

В. Ш

## Беластоцкі Аддзел БГ-КТ прыступіў да працы

Трэцяга ліпеня адбылося пасяджэнне нававыбранага Праўлення Гарадскога Аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку.

Адной з асноўных задач, якую паставіла перад сабой Праўленне — гэта сарганізаванне ў другой палове ліпеня нарады з беларускай інтэлігенцыяй у справе ўтварэння Клуба інтэлігенцыі ў Беластоку. Апрача гэтага намечана разгарнуць лектарска - прапагандовую дзейнасць у горадзе.

(с. я.)

## Падарак Гродзенскіх сяброў

У канцы мінулага месяца вярнуўся з Гродна самадзейны ансамбль песні і танца «Сувальшчына».

Сувальскія артысты далі шмат канцэртаў у Гродна і раённых цэнтрах вобласці.

Насельніцтва Гродзенскай вобласці з вялікім энтузіязмам успрыняло выступленні польскіх сяброў. Напрыклад: у раённым цэнтры Жалудок. «Сувальшчына» незмаўкаючым «бісам» беларускіх гледачоў была прымушана яшчэ раз паўтарыць свой канцэрт.

Вяртаючыся назад, Сувальскія артысты прывязлі беларускаму самадзейнаму калектыву пры ГП БГ-КТ у падарунку ад гродзенскіх сяброў, камплект беларускіх народных песень, запісаных на плёнцы. Такі-ж падарак у Гродна атрымаў ансамбль «Сувальшчына».

(вб)

## Юбілей братняга часопіса

Ужо трэці год існуе ў Польшчы Украінскае грамадска - культурнае таварыства і выдаецца яго друкаваны орган — «Нашэ слово». 13 ліпеня г. г. выходзіць у свет соты нумар газэты «Нашэ слово».

Братняму часопісу жадаем здабыць тысячы новых чытачоў, а рэдактарам яго выдаць тысячны нумар.

## Літаратурны вечар у Шчэціне

20 чэрвеня 1958 г. у клубе ТПП-Р у Шчэціне адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны 76 гадавіне нараджэння і 16 гадавіне смерці Янкі Купалы.

Жыццё і творчы шлях паэта прадставіў старшыня гуртка БГ-КТ у Шчэціне, Міхась Артышэвіч. Вершы чытаў студэнт Мікола Сычэўскі.

На вечары прысутнічалі прадстаўнікі украінскага гуртка ў Шчэціне. Літаратурны вечар быў арганізаваны членамі мясцовага гуртка БГ-КТ.

## Родныя краявіды



*Від на раку Нарву каля вёскі Войшкі.*

(фота — А. Амільяновіч).

*19 ліпеня г. г. спаўняецца 65 гадавіна з дня нараджэння Уладзіміра Маякоўскага.*

*Творы таленавіцейшага паэта нашай эпохі блізкія і дарагія кожнаму прагрэсіўнаму чалавеку, да якой-бы нацыі ці нацыянальнасці ён не належаў. Многія творы паэта перакладзены на беларускую мову.*

*Ніжэй друкуем урывак з верша прысвечанага Пушкіну ў перакладзе Р. Лынькова.*



## ЮБІЛЕЙНАЕ

Айда, Маякоўскі!
Маяч на поўдзень!
Сэрца
рыфмамі вымуч —
вось
і каюк каханню поўны,
дарагі Владзім Владзімыч.
Не,
не старасць гэтаму імя!
Тушу,
як рушу ўперад —
стрымай! —
Са здавальненнем
справілюся з двума,
а раззлаваць —
і з трыма.
Кажуць,
што я тэмай — індывідуальны!
Entre nous...
не цыкаў цэнзар каб
Кажуць —
нават бачылі, —
канфідэнцыяльна! —
закаханых
членаў ЦВК'а.
Вось —
пусьцілі плётку,
цешаць скрозь душу ей.
Александр Сергеіч,
ды не слухайце-ж вы іх!
Можа,
я
адзіны
сапраўды шкадую,
што няма вас сёння
між жывых.
Трэба
пры жыцці-б
нам
узгадніць адно, бач.
Хутка вось
і я
памру
і буду нем.
Пасля смерці
нам стаяць амаль што побач:
вы на Пэ,
а я
на эМ.
Хто між нас?
З кім загадалі-б знацца?!
Край мой на паэтаў бедны —
не таю.
Паміж намі —
вось бяда —
ўшчаміўся Надсан.
Мы папросім,
каб яго
далей куды —
на Ю!
А Некрасаў
Коля,
хлопец ніштаваты, —
ён і ў карты,
ён і ў верш,
і так
як мае быць.
Ведалі яго?
Вось ён —
увагі варты
Гэты
нам кампанія —
чяхай стаіць.

